# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

**ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ**
**РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ**
**САЮЗУ ССР.**

**№ 9.**

АРТЫКУЛЫ
263—295.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# АД РЭДАКЦЫІ ВЕСЬНІКУ РАБОЧАГА І СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ САЮЗУ ССР.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 ліпеня г. г., выдаецца афіцыяльны ўрадовы орган *«Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік»*, у якім, шляхам заканадаўчага агалашэньня, друкуюцца ўсе дэкрэты і пастановы рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР на шасьцёх мовах: расейскай, украінскай беларускай, грузінскай, армянскай і тюрка-татарскай (арт. 34 Конституцыі Саюзу ССР).

Маючы на ўвазе забясьпечыць усе органы Рэспублікі афіцыяльным выданьнем пастановаў і загадаў рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР і зрабіць «Весьнік» настольным падсобнікам для ўсіх установаў, Сэкратарыят ЎЦВК, ту у выкананьне паданае вышэй пастановы, на пасяджэньні 17 верасьню г. г. пастанавіу прызнаць абавязковай падпіску на *«Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР»* для губэрскіх выканкамаў у колькасьці ня меньш 10 экзэмпляраў, для павятовых выканкамаў — 5 экзэмпляраў і для валасных выканкамаў—1 экзэмпляр.

Дзеля паказанага, Рэдакцыя «Весьніку Ўраду» прыступіла да рассылкі вышаўшых №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6 7, і 8 «Весьніку» паказаным выканкамам. Што тычыцца іншых дзяржаўных органаў і установаў, дык Рэдакцыя пачне разсылку «Весьніку» толькі пасьля атрыманьня ад іх адпаведных заказаў, у якіх павінна быць паказана: 1) пэўны адрас, водлуг якога належыць высылаць «Весьнік Ўраду», 2) колькасьць выпісваемых экзэмпляраў, 3) на якой з пералічаных вышэй моваў падпісчык жадае атрымоўваць «Весьнік» і 4) на які тэрмін утвараецца падпіска.

Усе заказы на *«Весьнік Ўраду»*, а так сама і падпісныя грошы належыць накіроўваць на адрас: *Москва, Тверская, 48, Главная Контора «Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК»*.

Умовы перадплаты паказаны ў абвестцы, зьмешчанай на 3-й староньцы вокладкі «Весьніку».

Масква, Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

### САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
і
### САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

---

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР

**№ 9.**

АРТЫКУЛЫ
263—295.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ⋄ 1923 ⋄ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**263. Аб выпуску у зварот грашовых знакаў кшталту 1923 г. з надпісамі на мовах, паказаных у арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР.**

Прызнаючы неабходным пусьціць у зварот грашовыя знакі з надпісамі на мовах, агульна-ужываемых у саюзных рэспубліках, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік **пастанавіў:**

1. Пусьціць у зварот грашовыя знакі кшталту 1923 году вартасьцю у 100, 250, 500, 1000, 5.000 і 10.000 рублёў з надпісамі на мовах, показанных у арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР: расейскай, украінскай, беларускай, армянскай, грузінскай і тюрка-татарскай.

2. Памянёныя у арт. 1-м грашовыя знакі ходзяць на ўсім абшары Саюзу ССР ураўне з грашовымі знакамі кшталту 1923 г., пушчанымі згодна пастановы за 24 кастрычніка 1922 году (Зборн. Увак. 1922 г. № 11 арт. 867), 9 лютага (Зборн. Узак. 1923 г. № 12, арт. 157) і 29 верасьня 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 8, арт. 232).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

23 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 270 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 лістападу 1924 г.

---

**264. Аб грашовым звароце на Далёкім Усходзе.**

У дадатак да пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 3 жніўня 1923 году, аб грашовым звароту на Далёкім Усходзе і ў мэтах спыненьня перашкодаў, зьяўляючыхся пры ажыцьцяўленьні паказанае пастановы Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць дзяржаўны банк прыймаць на Далёкім Усходзе ад усіх арганізацыяў і прыватных асобаў савецкія знакі на бягучыя рахункі у залатым (чырвоным) вылічэньні па офіцыяльнаму курсу, згодна п. VI пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 3-га жніўня 1923 году і рабіць па іх загадах пераводныя опэрацыі у залатым (чырвоным) вылічэньні з выплатай на мейсцы назначэньня пераводу чырвонцамі ці савецкімі знакамі па курсу котыровальнай Камісіі Маскоўскай таварнай біржы на дзень выплаты.

2. Абавязаць народны камісарыят грашовых справаў РСФСР усе крэдыты і дотацыі дзеля Далёкага Усходу, асабліва дзеля ваенага і марскога ведамстваў, адчыняць і выплачываць пераважна у чырвонцах.

3. Даць Дальрэўкому права, у працягу трох месяцаў з дню апублікаваньня гэтае пастановы, прытрымоўваць у асобных мясцовасьцях Далёка-Усходняй Краіны, па прадстаўленьням упаўнаважанага народнага камісарыяту грашовых справаў на Далёкім Усходзе, дзейнасьць п. V пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітету і Савету Народных Камісараў ад 3 жніўня 1923 году.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

23 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 270 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 25 лістападу 1924 г.

---

## 265. Аб дачы народнаму камісарыяту харчаваньня і народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР права зьніжаць установленыя дзеля выплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку эквіваленты жыта і пшаніцы.

Дзеля з'іначаньня пастановы сваей ад 3 жнiўня 1923 году (Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік № 4, арт. 82), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

У мэтах забясьпечаньня чырвонай арміі збожжам на харчы і крупамі, а таксама палягчэньня плацельшчыкам здачы падатку, народнаму камісарыяту харчаваньня сумесна з народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік даецца права самастойна зьніжаць установленыя эквіваленты замены аднаго пуду жыта або пшаніцы іншымі прадуктамі або культурамі для тых губэрняў, дзеля каторых па вышэйпрыведзёным памеркаваньням гэта будзе прызнана неабходным.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

23 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 270 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 лістападу 1923 г.

---

## 266. Аб скасаваньні ваенна-транспартных трыбуналаў на тэрыторыі Саюзу ССР.

У зьвязку з узмацненьнем транспарту і мінаваньнем вострай неабходнасьці у асобных судовых установах дзеля разгляданьня карных справаў аб злачынствах, пагражаючых транспарту, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

Усе мясцовыя ваена-транспартныя трыбуналы, дзеючыя на тэрыторыі Саюзу ССР—скасаваць.

Прапанаваць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік унясьці належныя з'іначаньні у дзеючыя палажэньні аб судабудаўніцтве і карна-процэсуальныя кодэксы з аднясеньнем справаў, падсудных ранейшым транспартным трыбуналам да падсуднасьці нармальных судоў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукидзе.**

23 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 270 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 лістападу 1923 г.

---

## 267. Аб акцызу на паваранную соль.

Дзеля з'іначаньня арт. 12-а разьдзелу I пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 19-га красавіка 1923 году аб устанаўленьні памеру акцызных ставак на рэчы, абкладваемыя акцызам (З. Зак. РСФСР 1923 г. № 33, арт. 362), арт. 13 дадатку да пастановы СПА ад 20 жніўня 1923 г. аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 24-га жніўня 1923 г.); пастановы УЦВК і СНК ад 30-га лістападу 1922 г. аб дачы адумысловых льготаў па акцызу на соль дзеля найбольш важных выглядаў соляпатрабляючай дзяржаўнай ,прамысловасьці (Зб. Зак. РСФСР 1922 г. № 80, арт. 1008 і пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 13 ліпеня 1923 году аб зьніжэньні на 50% акцызу на соль, якая йдзе дзеля патрэб рыбнай прамысловасьці (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г. № 1, арт. 20),—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць акцыз на паваранную соль у чырвоным вылічэньні у памеры 22 кап. з пуду або аднаго рубля трыццаці чатырох капеяк са ста кілёграмаў.

2. Устанавіць акцыз на паваранную соль, патрабляемую у вытворчасьці прадпрыемстваў і коопэратыўнай рыбнай прамысловасьці, у чырвоным вылічэньні у памеры пятнаццаці капеяк з пуду або дзевяноста двух капеяк са ста кілёграмаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

16 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 272 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 28 лістападу 1923 г.

---

## 268. Аб памерах акцызных ставак на джутавую і вігоневую пражу.

Дзеля з'іначаньня разьдзелаў Б і Д арт. 22-а дадатку да пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 20-га жніўня 1923 году аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні („Известия“ Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ад 24-га жніўня 1923 году) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў **пастанаўляюць:**

1. Стаўкі акцызу з джутавай пражы устанавіць у наступных памерах (у чырвоным вылічэньні):

| Джутавая пража. | З фунту. | З кілёграму. |
|---|---|---|
| 1. Канатная . . . . . . | 4,4 кап. | 10,7 кап. |
| 2. Мяшочная . . . . . . | 1,8 „ | 4,5 „ |

2. Вігоневая пража з прымешкай шэрсьці ня звыш 15% абкладваецца акцызам па стаўкам, установленым дзеля вігоневай пражы; вігоневая пража з прымешкай звыш 15% абкладваецца па стаўкам, установленым дзеля шэрсьцяной апаратнай пражы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 лістападу 1923 г. Масква — Крэмль.

Рэспублікавана в № 276 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 2 сьнежня 1923 г.

## 269. Аб акцызу на шаўковыя тканіны ўнутранай вытворчасьці.

Дзеля з'інакавання пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 28-га лютага 1923 году аб акцызу на вытворы тэкстыльнай прамысловасьці (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 17, арт. 214); пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 20-га жніўня 1923 г. аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні („Известія" ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 24-га жніўня 1923 г.), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устаноўленае арт. 1 пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 28 лютага 1923 году абкладаньне акцызам шаўковай пражы і грэжы адмяняецца.

2. Акцызам абкладаюцца рабімыя фабрычнымі завядзеньнямі (арт. 4) на тэрыторыі Саюзу ССР шаўковыя і паўшаўковыя (утрымліваючыя прымешку шоўку) тканіны.

3. Памянёнымі у арт. 2-ім гэтае пастановы тканінамі, падлягаючымі абкладаньню акцызам, прызнаюцца усе вытворы тканьня, вязаньня і пляценьня, у якія ўваходзіць шоўк, як натуральны, гэтак і штучны.

4. Завядзеньні, якія робяць шаўковыя і паўшаўковыя тканіны, прызнаюцца фабрычнымі: а) калі у іх маюцца больш 2-х працуючых ткацкіх, вязальных, вышывальных, набіўных і іншых станкоў дзеля вытворчасьці тканін ці б) калі у іх дзеля прывядзеньня у дзейнасьць арудзіяў вытворчасьці ужываецца мэханічная ці жывотная сіла.

5. Кожнае фабрычнае заведзеньне, якое робіць шаўковыя ці паўшаўковыя тканіны, павінна быць зарэгістрыравана у мясцовым фінансавым аддзеле.

6. Акцыз з памянёных у арт. 2 тканін спаганяецца па вазеу у залежнасьці ад роду і якасьці тканін на падставе ставак, паказаных у дадатку да гэтае пастановы.

7. Выплата акцызу за тканіны павінна рабіцца пры выпуску іх з фабрычнага завядзеньня.

8. Выплачаны за шоўкавую пражу і грэжу акцыз, водлуг паступленьня іх у перапрацоўку у фабрычныя завядзеньні, вытвараючыя шоўкавыя і паўшоўкавыя тканіны, залічваецца у рахунак будучых плацяжоў акцызу за паказаныя тканіны, пры умове падачы належных довадаў аплаты акцызам памянёных пражы і грэжы.

9. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даручаецца выдаць, па згодзе з вышэйшым саветам народнай гаспадаркі Саюзу ССР, інструкцыю па ужытку гэтае пастановы.

10. Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы у асобных мясцовасьцях устанаўліваецца народным камісарыятам грашовых справаў і апублікоўваецца у „Известиях" Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшині ЦВК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

Дадатак да арт. 269.

### ТАРЫФ
акцызных ставак на шаўковыя тканіны унутраной вытворчасьці.

| Найменьне і якасьць тканін. | Акцыз у чырвоным вылічэньні. З фунту. Руб. | Кап. | З кілёгр. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|---|
| **1.** Шаўковыя і паўшаўковыя тканыя матар'ялы, хусткі, шалікі, стужкі і г. п. вытворы, апрача асобна названых у іншых артыкулах гэтага тарыфу: | | | | |
| 1. усякія, апрача паказаных у п. п. 2 і 3 гэтага артыкулу: | | | | |
| а) з папяровай асновай ці папяровым утокам . . . . | 1 | 30 | 3 | 17 |
| б) чыста шаўковыя ці утрымліваючыя шоўк у аснове і ў утоку . . . . . . . . | 4 | 65 | 11 | 35 |
| 2) Аксаміт, плюш і аксамітныя стужкі: | | | | |
| а) з папяровай асновай і папяровым утокам (шаўковы толькі ворс) . . . . . | 1 | 65 | 4 | 03 |
| б) з папяровай асновай або папяровым утокам . . . . | 2 | 65 | 6 | 47 |
| в) чыста шаўковыя . . . . | 4 | — | 9 | 76 |
| 3) суконнаабразныя тканіны і байка з прадзеных шаўковых ахлопьяў (шаппа ці бур-дэ-суа), бяз прымешкі ці з прымешкай шэрасьці, пуху, хлапку і лёну . | 1 | 65 | 4 | 03 |
| **2.** Шаўковыя і паўшаўковыя дыванныя дэкоратыўныя, мэблявыя і іншыя вытворы, апрача гобеленавых і сінель . . . . . . . . . . | 1 | 30 | 3 | 17 |
| **3.** Шаўковыя і паўшаўковыя гобеленавыя ткапіны . . . . . . . | 8 | — | 19 | 52 |
| **4.** Шаўковыя і паўшаўковыя вязаныя (трыкатажныя) і плеценыя вытворы і матар'ялы, хоць бы з ажурам ці вышытыя: | | | | |
| 1) пярчаткі, панчохі, шкарпэткі . | 5 | 60 | 13 | 66 |
| 2) усякія іншыя вырабы . . . . | 3 | 50 | 8 | 54 |
| **5.** Шаўковыя і паўшаўковыя басоныя вырабы, як шнуркі, цесьмы, аграманты, кутасы гарнітуры і г. п. . | 2 | 65 | 6 | 47 |
| **6.** Шаўковы і паўшаўковы цюль . . | 9 | 25 | 22 | 57 |
| **7.** Газ дзеля мельнічных сітаў . . | 2 | 66 | 6 | 47 |
| **8.** Карункі і карунковыя вырабы шаўковыя і з прымешкаю шоўку . | 12 | — | 29 | 28 |
| **9.** Парча і глазет . . . . . . . | 1 | 85 | 4 | 51 |
| **10.** Вашчанка і клеёнка шаўковая і паўшаўковая . . . . . . . . | 2 | — | 4 | 88 |

Агульныя увагі да тарыфу:

1-ая. Тканіны з штучнага шоўку абкладаюцца на аднолькавых падставах з тканінамі з натуральнага шоўку,

2-ая. Акцыз на падставе гэтага тарыфу спаганяецца водлуг вагі нетто.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 лістападу 1923 г. Масква — Крэмль.

---

## 270. Аб звальненьні ад аплаты гэрбавым зборам умоваў аб плянавай дастаўцы прадпрыемствамі топлïўнай прамысловасьці мінэральнага топліву.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Комісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Зволіць ад гэрбавага збору умовы аб дастаўцы прадпрыемствамі дзяржаунай топлïўнай прамысловасьці мінэральнага топліву у плянавым парадку па цэнам, зацьверджаемым Саветам Працы і Абароны.

2. Дзейнасьць арт. 1-га пашырыць і на ўмовы, заключоныя да выданьня гэтае пастановы з тым, аднак, што ўжо уплочаныя за кошт гэрбавага збору сумы ўзвароту не падлягаюць.

3. У належнасьці з вышэй выкладзеным дапоўніць падзел 7-ы разьдзелу II пераліку выняткаў па гэрбаваму збору (дадатак 2-і да статуту аб гэрбавым збору ад 17-га жніўня 1923 году „Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу ССР № 5, арт. 114) параграфам 39-м наступнага зьместу.

„§ 39-а. Умовы аб дастаўцы прадпрыемствамі дзяржаўнай топлïўнай прамысловасьці мінэральнага топліву у плянавым парадку па цэнам, зацьверджаемым Саветам Працы і Абароны."

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 276 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 сьнежня 1923 г.

---

## 271. Аб мерах дапамогі разьвіцьцю кас ашчэднасьці.

*Наукольна.*

Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам:

Расійскае Соцыялістычнае Федэратыўнае Савецкае Рэспублікі, Украінскае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі, Беларускае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі, Закаўказкае Соцыялістычнае Федэратыўнае Савецкае Рэспублікі.

Прадпрынятымі па закончаньню грамадзянскай вайны мерапрыемствамі па адбудаваньню народнай гаспадаркі дасягнена бязспрэчнае палепшаньне матар'яльнага становішча працуючых. Дзякуючы паступоваму, але сыстэматычнаму павышэньню заробку у розных галінах народнай працы, у насельніцтва часта бывае па здавальненьню бягучых патрэбаў некаторы вольны запас сродкаў. Сродкі гэтыя, паколькі яны зьберагаюцца на руках у выглядзе грашовых знакаў, з працягам часу дзякуючы няўстойчывасьці савецкага рубля, падпадаюць абезцаненьню, што зьменьшае пакупацельную моц насельніцтва. У мэтах дачы насельніцтву магчымасьці бясьпечнага ад абезцаненьня і выгоднага зьберагаеньня грашовых зьберагеньняў і вольных сродкаў, у 1922 г. былі утвораны дзяржаўныя працоўныя касы ашчэднасьці, у якіх працуючыя могуць трымаць свае зьберагеньні ня толькі з перацэнкай іх, належна ступені падзеньня курсу рубля, але і з налічэньнем процантаў. З такіх касаў у цяперашні час ужо дзеюць касы у Маскве, Петраградзе, Харкаве, Кіеве, Туле, Растове на Дану і Екацерынославе, затым маецца быць у бліжэйшым будучым адчыненьне касаў у іншых местах і, нарэшце у далейшым намечана разьвіцьце сеці касаў у іншых населеных пунктах пры установах фінансавага, пачтова-тэлеграфнага і чыгуначнага ведамстваў.

Прымаючы пад увагу вялікае дзяржаўнае значэньне, якое здабывае праца апарату ашчэднасьці у умовах цяперашняга часу, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР просіць цэнтральныя выканаўчыя камітэты саюзных рэспублік прыняць усе залежныя меры дапамогі пасьпешнаму развіцьцю зьбесправы ашчэднасьці і паказаць цэнтральным выканаўчым камітэтам аўтономных рэспублік, губэрскім выканаўчым камітэтам, краінным выканаўчым камітэтам, профэсыянальным арганізацыям і іншым установам і арганізацыям на неабходнасьць ня толькі самай актыўнай помачы органам фінансавага ведамству у арганізацыённай і тэхнічнай працы па адчыненьню касаў ашчэднасьці у тых пунктах Саюзу ССР, гдзе гэткія будуць ажыцьцяўляцца па намечанаму пляну, але таксама на жаданнасьці выяўленьня ўласнаё энергічнай ініцыятывы з іх боку у даступных кожнай арганізацыі межах, у сэнсе прапаганды ідэі касаў ашчэднасьці сярод працоўнага насельніцтва, вытлумачэньня выгады зьберагаеньня грошаў у касаха шчэднасьці і значаньня апарату ашчэднасьці дзеля народнай гаспадаркі краю.

Аб выкладзеным Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР паведамляе дзеля належнага кіраўніцтва.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

30 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 272. Аб устанаўленьні на 1923—24 бюджэтны год падатку з гаспадарак, знаходзячыхся каля местаў і трымаючых жывёлу, але ня маючых пасеваў.

Дзеля разьвіцьця увагі 2-е да арт. 1-га дэкрэту УЦВК і СНК ад 10-га траўня 1923 году аб адзіным

сельска-гаспадарчым падатку (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 42, арт. 451) і адпаведных законаў другіх саюзных рэспублікаў, ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць на 1923—24 год на падставах, памянёных у наступных артыкулах, падатак з знаходзячыхся каля местаў гаспадарак, ня маючых пасеваў, але маючых прадуктыўную або рабочую жывёлу.

2. Абкладываецца рабочая жывёла рабочага узросту (коні, валы, верблюды) і буйная рагастая жывёла старэй двух гадоў, пры чым прызначаныя належным чынам да 1-га красавіка 1923 г. заводзкія проізвадзіцелі пры абкладваньні не належаць да учоту.

3. За адзінку учоту пры абкладваньні прымаецца адна галава буйнае рагастае жывёлы (карава) да якое дараўніваюцца: адзін конь, адзін вярблюд і два валы.

4. Абкладаньне пашыраецца на сельскія мясцовасьці, якія знаходзяцца каля местаў, за рысай места у адлегласьці ад Масквы і Петраграду не далей 30 вёрстаў, ад местаў 1-га і 2-га паясоў па прамысловаму падатку не далей 10 вёрстаў, ад местаў 3-га поясу—не далей 5 вёрстаў і на мясцовасьці, якія прылягаюць да іншых местаў, абкладаньне не пашыраецца.

5. Ад падатку звальняюцца: а) гаспадаркі, якія маюць ня болей аднэй каровы, калі яны ня маюць рабочае жывёлы; б) навуковыя установы, навукова-паказальныя фэрмы, санаторыі, больніцы, сьпіс каторых па кожнай губерніі (або адпаведнай ім адміністратыўнай адзінцы) зацьверджваецца губэрскім выканаўчым камітэтам (або адпаведнай яму установай) пасьля падачы належнага аддзелу грашовых справаў. Акрамя таго, пры абкладаньні ня прымаюцца у лік коні падводчыкаў і падводных прадпрыемстваў, абкладваемых прамысловым падаткам.

6. Падатак сыскваецца выключна грашыма Вялічыня абкладаньня вылічваецца па дадаваемай росьпісі ставак у чырвоным вылічэньні.

7. Падатак плаціцца у тэрміны, устанаўліваемыя НКГС Саюзу ССР.

8. З сумаў падатку, узьнесеных у тэрмін, 50% адлічваецца у прыбытак мясцовых выканаўчых камітэтаў.

9. Збор падаткаў, згодна гэтае пастановы, ускладаецца на НКГС Саюзу ССР.

Інструкцыя аб ужываньні гэтае пастановы падаецца НКГС на зацьверджаньне СНК Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 282 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сьнежня 1923 г.

Дадатак да арт. 272.

**Росьпісь**

ставак падатку у чырвоных рублях.

| | З аднае галавы жывелы, пры адлегласьці ад места. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Ня больш 5 верстаў. | Больш 5 да 10 в. | Больш 10 да 20 в. | Больш 20 да 30 в. |
| У мясцовасьцях, прылягаючых да м. м. Масквы і Петраграду | 5 | 4 | 3 | 2 |
| У мясцовасьцях, прылягаючых да іншых местау 1-га поясу па прамысловаму падатку | 4 | 3 | — | — |
| У мясцовасьцях, прылягаючых да местау 2-га поясу | 3 | 2 | — | — |
| У мясцовасьцях, прылягаючых да местау 3-га поясу | 2 | — | — | — |

Увага 1. Па гэтым стаўкам абкладваюцца гаспадаркі, якія маюць ня больш двух галоў жывёлы.

Увага 2. Дзеля гаспадарак, якія маюць тры галавы абкладваемае жывёлы, гэтыя стаўкі павялічваюцца на 20% і дзеля тых, якія маюць чатыры галавы—на 40%, якія маюць пяць галоў—на 60%, якія маюць шэсьць галоў—на 80% і дзеля тых, якія маюць сем і болей галоў—на 100%.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

## 273. Аб пашырэньні на установы і прадпрыемствы, знаходзячыяся на мясцовым бюджэту, льготнага тарыфу падачаў на сацыяльную страхоўку.

У дадатак да пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 12-га красавіка 1923 г. аб устанаўленьні тарыфу падачаў на сацыяльную страхоўку і аб ануліраваньні даўгоў установаў і прадпрыемстваў па страховачным падачам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 31, арт. 342), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Пашырыць дзейнасьць часовага льготнага тарыфу падачаў на сацыяльную страхоўку, устаноўленага п. „а“ арт. 2. Памянёнае пастановы ад 12-га красавіка 1923 г. на: а) установы, знаходзячыяся на мясцовым бюджэту (школы, бальніцы, адміністратыўныя і судовыя установы і г. д.) і б) камунальныя прадпрыемствы, не знаходзячыяся на гаспадарчым утрыманьні, згодна асобнаму пераліченьню, устаноўленаму на згодзе паміж

Народным Камісарыятам Грашовых Справаў і Народным Камісарыятам Працы Саюзу ССР.

2. Гэтую пастанову здейсьніць з 1-га сьнежня 1923 г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 283 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 11 сьнежня 1923 г.

---

## 274. Аб льготах у падатку дзеля коопэратыўных арганізацыяў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць льготы у падатку дзеля як належыць арганізаваных коопэратыўных арганізацыяў (спажывецкіх, сельска-гаспадарчых, кустарна-прамысловых, пазычковых) што наступяць:

### А. У дзяржаўным прамысловым падатку.

2. Звольніць ад дзяржаўнага промысловага падатку:

а) першапачатковыя сельскія, гэтак сама і рабочыя фабрычна-завацкія (не глядзячы, дзе знаходзяцца яны) коопэратыўныя арганізацыі і утрымліваемыя імі прадпрыемствы з гадавым зваротам, не пераходзячым 20.000 р. у чырвоным вылічэньні;

б) сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы коопэратыўных арганізацыяў і земляробскіх арцеляў і камунаў за межамі местаў, як: жывёлаводныя, малочна-гаспадарчыя, разводзячыя птушак, агародныя, садаводныя, пчалярскія і выраблнючыя віна;

в) Збываньне коопэратыўнымі аб'яднаньнямі вытвораў селкаэ гаспадаркі іх сяброў, а гэтак сама пажываньне і скарыстаньне рэчаў дзеля здавальненьня іх сельскае гаспадаркі, як: насеньне харчы, сельска-гаспадарчыя машыны, угнаеньне, матар'ялы дзеля рамонту і г. д.;

г) утрымліваемыя коопэратыўнымі арганізацыямі, земляробскімі арцелямі і камунамі пункты дзеля падпусканьня, Сельска-гаспадарчых машынаў, адчысткі збожжа і г. д.; майстэрні дзеля рамонту сельска-гаспадарчых машынаў і кузьні.

Увага. Пры вылічваньні параўнаўчага збору з коопэратыўных арганізацыяў з агульнае выручкі выключаюцца звароты іх з арганізацыямі гэткае самае коопэрацыі, па простай лініі яе сыстэмы. (Угару і ўніз.)

3. Зьнізіць абкладаньне дзяржаўным прамысловым падаткам дзеля коопэратыўных арганізацыяў і утрымліваемых імі гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, не падпадаючых пад поўнае аслабаненьне ад гэтага падатку на падставе арт. 2-га гэтае пастановы:

а) на 50%, калі яны абслугоўваюць выключна сяброў свае арганізацыі;

б) на 25%, калі яны абслугоўваюць разам з сябрамі свае арганізацыі гэтак сама і ня сяброў яе.

4. Даць адстрочку на два гады дзеля выплаты належачага з коопэратыўных арганізацыяў дзяржаўнага прамысловага падатку за першага паўгода з часу іх утварэньня.

5. Прызнаць не падлягаючымі абкладаньню дзяржаўным прамысловым падаткам наступныя асабістыя прамысловыя заняткі:

а) сяброў кіраўніцтваў коопэратыўных арганізацыяў і іх служачых, спаўняючых свае абавязкі дарэмна;

б) асобаў, праца якіх аплачваецца з складу кіраўніцтва або служачых, падлеглых абкладаньню дзяржаўным прамысловым падаткам у ліку ня больш трох дзеля кожнае коопэратыўнае арганізацыі;

в) служачых у негандлёвых аддзелах коопэратыўных арганізацыяў (у статыстычным, інструктарскім, культурна-асьветным, аграпамічным, юрыдычным і г. д.).

### Б. У прыбытковым падатку.

6. Пашырыць на усю коопэрацыю льготы, дадзеныя спажывецкай коопэрацыі палажэньнем аб прыбытковым падатку з дзяржаўных і коопэратыўных прадпрыемстваў і зьмяшаных грамадаў (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 61, арт. 578).

### В. У акцызных зборах.

7. Пашырыць на прамысловыя прадпрыемствы коопэрацыі парадак выплаты акцызаў, устаноўлены дзеля належных галінаў дзяржаўнае прамысловасьці.

8. Даць коопэратыўным арганізацыям права адчыняць базавыя склады з тым, як акцызы пералічваліся на іх.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкретар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сьнежня 1923 г. Масква — Крэмль.

---

## 275. Аб пераіначаньні палажэньня аб прыбытковым падатку з дзяржаўных і коопэратыўных прадпрыемстваў і зьмяшаных грамадаў.

Дзеля разьвіцьця арт. 6 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 лістападу 1923 г. аб палёгках у падатку дзеля кооператыўных арганызацыяў ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Увагу да арт. 4, увагу да арт. 5 і арт. 7 палажэньня аб прыбытковым падатку с дзяржаўных і коопэратыўных прадпрыемстваў і зьмяшаных грамадаў (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 61, арт. 573) выкласьці у рэдакцыі што наступіць:

„Увага да арт. 4: Ад прадугаданага гэтым палажэньнем падатку звальняюцца працуючыя толькі у вясковых мясцовасьцях першапачатковыя коопэратыўныя аб'яднаньні, а гэтак сама у местах першапачатковыя спажывецкія аб'яднаньні рабочых і служачых".

„Увага да арт. 5:—Дзеля коопэратыўных арганызацыяў даюцца палёгкі у прыбытковым падатку, гэткія самыя якія дадзены дзеля іх палёгкі у прамысловым падатку“.

„Арт. 7. Падатак з прадугаданых арт. 1 дзяржаўных прадпрыемстваў, зьмяшаных грамадаў і таварыстваў, а гэтак сама з цэнтральных і губэрскіх коопэратыўных аб'яднаньняў вылічваецца асобнай прыбыткова-падаткавай камісіяй, знаходзячайся пры губэрскім аддзелу грашовых справаў тае губэрніі, у якой знаходзіцца кіраўніцтва арганызацыі. Асобная прыбыткова-падатковай камісія знаходзіцца пад старшынством кіраўніка падаткавым упраўленьнем губэрскага адзелу грашовых справаў з прадстаўнікоў губэрскага выканаўчага камітэту, губэрскага савету народнае гаспадаркі, губэрскага саюзу спажывецкіх грамадаў, і губэрскае рабоча-сялянскае інспэкцыі—па аднаму ад кожнага. Пастановы асобнае камісіі могуць быць абжалаваны у губэрскую па прыбыткова-памаентнаму падатку камісію“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 283 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 11 сьнежня 1923 г.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**276. Аб парадку выдаткаваньня сумаў, паступаючых у прыбытак дзяржавы па НКШЗ і НКПТ і па касам лясьнічых НКЗемляробства.**

Савет Народных Камісараў **пастанавіў:**

1. Выдаткаваньне сумаў дзяржаўных прыбыткаў, паступіўшых у касы адумысловых пaборцаў, дазваляецца: а) па народным камісарыятам шляхаў зносін і НКПТ—незалежна ад месцазнаходжаньня іх касаў, б) па касам лясьнічых Наркамземаў—у тых выпадках, калі касы гэтыя знаходзяцца знадворку месцазнаходжаньня касаў Наркомфіну.

Увага. Сьпісы касаў адумысловых паборцаў лясных прыбыткаў, якім даецца права рабіць выдаткі, складаюцца губфінаддзеламі па згодзе з губземупраўленьнямі.

2. Выдаткі, якія робяцца касамі адумысловых паборцаў спаўняюцца па асігноўкам распарадчыкаў крэдытаў або замяняючым асігноўкі дакумэнтам.

3. Рабіць выдаткі з паступіўшых у касы установаў НКШЗ прыбыткаў дапушчаецца толькі тады, калі ёсьць крэдыты, дазволеныя у устаноўленым парадку дзеля кожнай асобнай гаспадарча-адміністратыўнай адзінкі чыгуначнага і воднага транспарту у межах гэтых крэдытаў належныя цэнтральныя упраўленьні НКШЗ высылаюць у ва ўсе касы, з якіх прапанавана рабіць выдаткі, выдатковыя расклады на дадзены бюджэтны перыод, якія і служаць падставай дзеля вытварэньня выдаткаў.

4. Перавышеньне сапраўднага паступленьня прыбыткаў па кожнай адміністратыўнай адзінцы транспарту проціў памеру паступленьняў, прадгледжаных па зацьверджанаму каштарысу НКШЗ выдаткуецца на патрэбы транспарту зьверх каштарысных назначэньняў па выдаткаванаму каштарысу.

5. Устанаўліваць паказанае у папярэднім артыкулу перавышэньне прыбыткаў па кожнай адміністратыўнай адзінцы і вызначаць, якая частка гэтага перавышэньня застаецца у загадзе НКШЗ дзеля здавальненьня агульных першачарговых патрэбаў транспарту і якая частка даецца у загад мясцовых органаў НКШЗ, даецца фінансава-кантрольнаму камітэту НКШЗ.

6. Пастанова ФКК, устанаўліваючая сумы паказанага у папярэдніх артыкулах перавышэньня, якія аддаюцца у загад мясцовых органаў НКШЗ, у копіях паведамляюцца гэтым органам і служаць падставай дзеля вытварэньня за кошт гэтых сумаў выдаткаў у дадатак да сумаў, адпушчаных па выдаткаваным раскладам.

7. Назначаныя у арт. 6-ым сумы, асігнуемыя мясцовым органам зварочваюцца імі у першую чаргу на пакрыцьцё перавыдаткаў па эксплёатацыі, утварыўшыхся, як праз павялічэньне памераў руху і перавозак проціў каштарысных нормаў выдаткаў.

Частка сумаў, якая застаецца пасьля пакрыцьця паказанага перавыдатку, памянёных у арт. 6-ым, выдаткуецца на здавальненьне іншых патрэбаў транспарту, паляпшэньне умоваў працы і быту служачых, утварэньне зваротнага капіталу і іншыя патрэбы. Парадак выдаткаваньня мясцовымі органамі НКШЗ сумаў, дадзеных у іх загад пастановамі ФКК, рассылкі выдаткаваных раскладаў і г. п. устанаўліваюцца асобнай інструкцыям, выдаваемай ФКК па згодзе з НКХ.

8. Аб памеры перавышэньня сапраўднага прыбытку па ўсім адміністратыўна-гаспадарчым адзінкам НКШЗ над каштарыснымі намерамі, з разьмяркаваньнем гэтага перавышэньня паміж НКШЗ і яго мясцовымі органамі, а таксама аб скарыстаньні усяго гэтага перавышэньня з паказаньнем патрэбаў, на якія яно было зьвернена, НКШЗ паведамляе НКГС гадавую справаздачнасьць і штомесячныя папяраджаючыя справаздачныя веды, прычым апошнія паведамляюцца не пазьней другога месяцу наступнага за справаздачным.

9. Выдаткі як за кошт мясцовых крэдытаў, забясьпечываючых прыбыткамі НКШЗ, гэтак і за кошт перавышэньня прыбыткаў сапраўдных над прыбыткамі каштарыснымі вытвараюцца, як непасрэдна з належных

касаў установаў НКШЗ, гэтак і пры пасрэднасьці установаў дзяржбанку у якія перадающца дзеля зьберагацьня на бягучых рахунках усе сродкі, якія ёсьць, установаў, НКШЗ за выключэньнем сумаў, неабходных дзеля здавальненьня самых тэрміновых бягучых выдаткаў.

10. Народнаму камісарыяту почт і тэлеграфаў даецца права вытвараць выдаткі на патрэбы свайго ведамству за кошт паступаючых у касы пачтова-тэлеграфных установаў прыбыткаў у межах адпушчаных НКПТ па яга выдаткаванаму каштарысу крэдытаў, прычым падставай дзеля вытварэньня выдаткаў на мясцох служаць выдаткаваныя раскладкі і перакладныя вымаганьні, высылаемыя цэнтрам у акружныя органы НКПТ; на падставе гэтых раскладаў і перакладных вымаганьняў акружнымі упраўленьнямі разасігноўваюцца крэдыты дзеля пад'уласных ім ніжэйшых органаў як выдаткованымі раскладамі, так і перакладнымі вымаганьнямі.

11. Калі месячны прыбытак ведамства перавышае выдатак за той жа тэрмін, дык розьніца учытываецца НКГС у бюджэтным пляну наступнага месяцу, калі ж выдатак ведамства перавышае яго прыбытковыя паступленьні, дык нехватаючыя сумы грашовых знакаў перадаюцца НКПТ, прычым у бюджэтны плян уключаецца дэфіцыт, які намяркоўваецца у НКГС з НКПТ, а таксама магчымае прыбытковае сальдо. Выявіўшыйся дэфіцыт пакрываецца НКГС па зацьверджаньні бюджэтнага пляну на дадзены месяц.

Канчатковае вызначэньне і пакрыцьцё дэфіцыту НКПТ за мінулы месяц робіцца НКГС у залежнасьці ад дастаўкі ведамствам ведаў аб прыбытках за той жа месяц.

12. Наркампачтэль абавязан дастаўляць НКГС гадавую і штомесячную справаздачу аб прыбытках і выдатках па ведамству.

13. Прыбытковыя паступленьні па НКХ ня могуць затрымоўвацца у прыбытковых касах ведамству, але перадаюцца у належныя установы дзяржанку дзеля захаваньня на бягучых рахунках падлягаючых органаў НКПТ і выдаткуюцца згодна выдаткаваным раскладам і перакладным вымаганьням праз чэкі. Выдаткаваньне паступаючых сумаў прама з пачтова-тэлеграфных касаў, хоць бы і ў межах выдаткаваных раскладаў, караецца па належным артыкулам карных кодэксаў саюзных рэспублік.

14. Парадак учоту збораў, руху іх, вытворчасьці з іх выдаткаў і парадак справаздачасьці устанаўліваецца асобнай інсткрукцыяй, зацьверджаемай НКГС па згодзе з наркампачтэлям.

15. Касы адумысловых паборцаў лясных прыбыткаў, пад'уласныя наркамземам і знаходзячыяся у мясцовасьцях, дзе няма касаў НКГС, могуць рабіць выдаткі з сабраных імі прыбыткаў на падставе: а) выдаткаваных раскладаў, складаемых і прысылаемых у касы губфінаддзеламі; з паказаньнем у іх каштарысных падразьдзяленьняў, прадметаў выдаткаў і сумаў па кожнаму каштарыснаму падразьдзяленьню і б) перакладных вымаганьняў.

16. Касы адумысловых паборцаў лясных прыбыткаў, якія робяць выдаткі за кошт казны, пасылаюць у губфінаддзелы веды аб зробленых імі выдатках; тэрмін і парадак падачы ведаў устанаўліваецца асобнай інструкцыяй НКГС па згодзе з НКЗемам.

17. Па касам адумысловых паборцаў прыбыткаў іншых ведамстваў, не паказаных у гэтых правілах, ніякія выдаткі не дапушчаюцца.

18. НКГС даручаецца складаньне па згодзе з зацікаўленымі ведамствамі падрабязных інструкцыяў па ужываньню гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

11 верасьня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 277. Аб устанаўленьні мытнай пошліны на неакасьцянеўшыя рогі маралаў і сайгакаў пры вывазу іх закардон.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Устанавіць мытную пошліну не неакасьцянеўшыя рогі маралаў і сайгакаў (панты), пры вывазу іх закардон, у памеры 40 руб. з пуду.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

6 лістападу 1923 г. Масква — Крэмль.

Рэспублікавана у № 266 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 21 лістападу 1923 г.

---

## 278. Аб адмене вывознай мыты на спарыньню і лікаподзі.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выкласьці арт. арт. 16 і 17 мытнага тарыфу па адпускному гандлю, зацьверджанаму СНК РСФСР 6 сакавіка 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 20, арт. 242) у наступнай рэдакцыі:

арт. 16 спарыньня . . . . . . . бязмытна
арт. 17 лікаподзі . . . . . . . бязмытна.

*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 275 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 сьнежня 1923 г.

---

## 279. Аб устанаўленьні таксаў за карыстаньне тэлефоннымі паслугамі НКПТ у чырв. вылічэньні.

Дзеля з'іначаньня паст. Савету Народных Камісараў РСФСР ад 9-га траўня 1923 году аб устанаўленьні таксаў за карыстаньне тэлефонамі народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў у залатых рублях (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 42, арт. 454) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Увясьці з 1-га сьнежня 1923 году тэлефонныя таксы у чырвоным вылічэньні;

| | | |
|---|---|---|
| па пэршай катэгорыі | . . . 70 | рублёў у год, |
| „ другой „ | . . . 85 | „ „ „ |
| „ трэцяй „ | . . . 130 | „ „ „ |
| „ чацьвёртай „ | . . . 200 | „ „ „ |

з тым, каб клясыфікацыя спажыўцоў і памер тарыфаў па усім іншым паслугам зьвязаным з карыстаньнем тэлефонамі вызначаліся і правадзіліся народным камісарыятам почт і тэлеграфаў па згодзе з народным камісарыятам грашовых справаў.

2. Паказаныя у арт. 1-ым стаўкі зьяўляюцца максымальнымі. Таксы на мясцох устанаўліваюцца мясцовымі адзяленьнямі цэнтральнага упраўленьня тэлефонных прадпрыемстваў НКПТ па згодзе з падлягаючымі фінорганамі, у залежнасьці ад мясцовых эканамічных умоваў, але ня звыш паказаных у арт, 1-ым абмяжаваных ставак.

3. Плата за карыстаньне тэлефоннымі паслугамі НКПТ уносіцца чырвонцамі ці грашовымі знакамі па курсу чырвонца, абвешчанаму у месцы і на дзень выплаты.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 275 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 сьнежня 1923 г.

## 280. Аб учоце замежнай валюты, знаходзячайся закардонам у загадзе дзяржаўных, коопэратыўных і прыватных установаў і прадпрыемстваў.

Дзеля разьвіцьця дэкрэту УЦВК і СНК ад 15 лютага 1923 г. аб валютных опэрацыях (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 15, арт. 189), СНК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Абавязаць усе дзяржаўныя, (у тым ліку камунальныя), коопэратыўныя і прыватныя установы і прадпрыемствы, вытвараючыя опэрацыі з замежнай валютай, падаваць у валютнае упраўленьне народнага камісарыяту грашовых справаў па устаноўленай форме і ў устаноўленыя тэрміны. справаздачы об маючай у іх загадзе закардонам замежнай валюты, роўна як і аб зробленых з ей опэрацыях.

2. Даручыць НКГС сумесна з ВСНГ і НКЗГ выдаць інструкцыю па ужываньню гэтае пастановы з паказаньнем формаў і тэрмінаў памянёнай у арт. 1-ым справаздачнасьці.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 275 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 сьнежня 1923 г.

## 281. Аб з'іначаньні арт. 13 мытнага тарыфу па адпускному гандлю.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выкласьці арт. 13-ы мытнага тарыфу па адпускному гандлю ад 6 сакавіка 1923 году (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 20, арт. 242) у наступнай з'іначанай рэдакцыі:

13. Самшыт (каўкаская пальма), цісс, бакаут, арэх і арэхавы наплыў, явар і кізыл з пуду 55 капеяк.

*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 275 і 288 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 і 16 сьнежня 1923 г.

## 282. Аб дадатку да арт. 10 палажэньня аб адміністратыўна-фінансавай камісіі СНК Саюзу ССР.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дадаць да арт. 10 палажэньня аб адміністратыўна-фінансавай камісіі увагу 2-ую наступнага зьместу:

Увага 2-я. Пастановы загаднага характару ўступаюць у моц зараз жа па падпісаньні пратаколу старшынёй і сябрамі адміністратыўна-фінансавай камісіі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 лістападу 1923 г. Масква — Крэмль.

## 283. Аб з'іначаньні памеру платы за перасылку адкрытак.

Дзеля з'іначаньня пастановаў сваіх ад 14-га жніўня 1923 г. аб увядзеньні новых у цьвёрдых адзінках (капейках) таксаў на аплату усіх выглядаў пачтовых, тэлеграфных і радыётэлеграфных адправак паслугаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 4, арт. 101) і ад 25 кастрычніка 1923 г. аб пераводу пачтова-тэлеграфных таксаў на чырвонае вылічэньне („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 27 кастрычніку 1923 г., Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 15-га сьнежня 1923 г. плату за перасылку адкрыткі у 3 чырвонных капейкі.

2. Даручыць НКПТ зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

27 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 275 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 1 сьнежня 1923 г.

## 284. Назначэньні.

1.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Увясьці т. Багданава, П. А. у склад галоўнага канцэсыйнага камітэту Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

23 кастрычніка 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 256 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 9 лістападу 1923 г.

2.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Увясьці тт. Лашэвіча, М. М. і Варашылава, К. Е. у склад Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

30 кастрычніка 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 256 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 9 лістападу 1923 г.

3.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Назначыць тав. Ксандрава, В. Н. сябрам прэзыдыуму вышэйшага савету народнай гаспадаркі Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкрэтар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

8 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 261 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 лістападу 1923 г.

4.

Савет народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Увясьці у склад галоўнага канцэсыйнага камітэту тав. Мдзівані, П. Г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Секратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

27 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 277 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 4 сьнежня 1923 г.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Працы і Абароны
## Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**285. Аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 19 жніўня 1923 г. і дзеля разьвіцьця дэкрэту УЦВК і СНК ад 19 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні вялічыні акцызных ставак на рэчы абкладваемыя акцызам (Зб. Зак. 1923 г., арт. 362) арт. 1 дэкрэту УЦВК і СНК ад 30 красавіка 1923 г. аб акцызу з гумалявых калёшаў (Зб. Зак. 1923 г., арт. 409) п.п. „а“ і „б“ дэкрэту СНК РСФСР ад 8 траўня 1923 г. аб цьвёрдых стаўках акцызу на вінаградныя віны (Зб. Зак. 1923 г., арт. 439), арт. арт. 2 і 3 пастановы СНК Саюзу ССР ад 17 ліпеня 1923 г. аб з'іначаньні сыстэмы акцызнага абкладаньня табачных вырабаў („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 29 ліпеня 1923 г.), арт. 1 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. аб акцызу з сьпірту, адпушчаемага на вырабку воцату („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 4 жніўня 1923 г. і пастановы СНК Саюзу ССР ад 26 ліпеня 1923 г. аб з'іначаньні акцызных ставак („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 27 ліпеня 1923 г.), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Выказаць цьвёрдыя стаўкі акцызнага абкладаньня у чырвоным вылічэньні, згодна дадатку да гэтае пастановы [1]).
2. Спагнаньне акцызаў рабіць чырвонцамі ці грашовымі знакамі па курсу дня выплаты.
3. Абавязаць НКГС Саюзу ССР зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 жніўня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

1) Дадатак да гэтае пастановы рэспублікаваны у № 13 Веснік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР.

**286. Аб парадку ужываньня „Урочного положения для строительных работ“.**

Наўперад да устанаўленьня заканадаўчым парадкам нормаў рэгуліруючых вылічэньне рабочае сілы, неабходнае дзеля спаўненьня пабудоўчае працы,—Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Часова ужываць нормы „Урочного положения строительных работ“ выданьня 1923 г. з адступленьнямі, паказанымі у артыкулах што наступяць.

2. Устанавіць пры складаньні каштарысаў на 1923—24 бюдж. год паправачны коэфіцыэнт у разьмеры 1,25 дзеля усіх нормаў прадугаданых „Урочным положением“, пры гэтым, пры практычным заданьні урокаў даецца права прымяняць паправачны коэфіцыэнт па асобным працам ад 1,00 да 1,25 і вышэй, залежна ад акалічнасьцяў, але не выходзячы за межы коэфіцыэнта 1,25 у агуле.

3. У п. „К“ § 16 „Урочного положения“ тэкст, начаўшы з слова „прычыны“ і да канца пункта выкінуць, дадаўшы да § 18 увагу што наступіць: „Прычыны адступаньня ад нормаў „Урочного положения“ павінны быць выказаны у каштарысах і тлумачачых цадулках, калі апошнія патрэбны. Неабходнасьць адступаньняў, прэдугаданых і каштарысах, выявіўшаяся у часе працы, сьведчыцца кожны раз падрабязгова матывіраванымі актамі“.

4. Злажыць §§ 4 і 5 „Урочного положения“ у наступнай новай рэдакцыі: „§ 4. У тым разе, калі працяг рабочага дня ніжэй 8-мі гадзін, то урокі, адтрымліваемыя у рэшце увядзеньня паправачнага коэфіцыента 1,25, павінны уменшацца згодна умяншэньню сапраўднага чысла гадзін працы“.

„§ 5. Складаючым каштарысы даецца права уводзіць у расцэнкі, пільнуючыся нормаў „Урочного положения“ з паправачным коэфіцыэнтам 1,25, сапраўдны лік гадзін рабочага дня“.

5. Абавязаць наркаматы, якія вядуць пабудоўчую працу зрабіць крокі дзеля адтрыманьня у працягу бу

даўнічага сэзону 1923—24 году опытных довадаў на конт практычнага ужываньня паправачных коэфіцыэнтаў і падаць гэтыя довады у Дзярж. Плян. Кам. не пазьней 1-га ліпеня 1924 году.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 верасьня 123 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 271 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 27 лістападу 1923 г.

---

## 287. Аб пагашэньні натурай аблігацыяў 2-й дзяржаўнай хлебнай пазыкі.

Савет Працы і Абараны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Наркамфіну Саюзу ССР прыняць усе неабходныя меры да пагашэньня натурай аблігацыяў другой дзяржаўнай хлебнай пазыкі; асобы, якія прымаюць аблігацыі, у парадку арт. 2-га гэтае пастановы, заявіць аб сваім жаданьні адтрымаць выплату па аблігацыям у натуральнай форме.

2. Усе, хто трымае аблігацыі другой дзяржаўнай хлебнай пазыкі, вымагаючыя пагашэньня іх натурай, павінны заявіць аб гэтым бліжэйшаму фінансаваму органу не пазьней 1-га студзеня 1924 г.

3. Абавязаць наркамфін прад'яўляемыя у яго органы дзеля пагашэньня натурай аблігацыі пагашаць не пазьней, чым праз два тыдні пасьля прад'яўленьня аблігацыяў.

4. Даручыць Наркамфіну у тэрміновым парадку апублікаваць усе неабходныя інструкцыі аб парадку ажыцьцяўленьня гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

9 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 261 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 лістападу 1923 г.

---

## 288. Аб парадку устанаўленьня цэнаў наздаваемыя дзяржаве серабро, падарожнікі плаціны і радзін.

Дзеля разьвіцьця пастановаў СПА РСФСР ад 4-га красавіка 1922 г. аб устанаўленьні цэнаў на золата і плаціну (пр. 308, п. 3) і ад 1-га сакавіка 1923 г. аб здабычы і учоце радзія (Зб. Зак РСФСР 1923 г., № 17, арт. 222) і дэкрэту СНК РСФСР ад 6-га сакавіка 1923 г. аб мерапрыемствах па разьвіцьцю залатой і плацінавай прамысловасьці (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 20, арт. 240), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Ускласьці на арбітражную камісію пры дзяржпляну, устанаўліваючую цэны на золата і плаціну, здаваемыя НКГС прадпрыемствамі ВСНГ, таксама устанаўленьне цэнаў на серабро і падарожнікі плаціны, здаваемыя тымі ж прадпрыемствамі, а роўна на радзій, здаваемы у парадку пастановы СПА РСФСР ад 1-га сакавіка 1923 г., Баньдзюжскімі, імені Л. Я. Карпава, заводамі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

9 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 277 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 4 сьнежня 1923 г.

---

## 289. Плян увядзеньня мэтрычнага укладу вымераў у Саюзу ССР.

| Найменьне ведамстваў. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Народныя камісарыяты асьветы саюзных рэспублік. | Прапаганда мэтрычнага укладу (выданьне плякатаў і пеpакладных табліц. Меры вагі (масы), даужыні і аб'ёму у установах і вучэбных завядзеньнях. | | Канчатковае увядзеньне мэтрычнага укладу у навуковай і вучэбнай справе. (Складаньне пеpакладаў з замежных моваў і пашырэньне належных падручнікаў. | |
| 2. Народны камісарыят почт і тэлеграфаў Саюзу ССР. | Меры даўжыні і вагі (масы) у пачтовых опэрацыях. (Вылічэньне адлегласьці дзеля вызначэньня платы за пасылкі: расклад ходу почт, пачтовы дарожнік, карта ходу почт, вылічэньне прагонай платы, вялічыня корэсподанцыі і інш.). Увядзеньне мятрычных мераў на новых работ. па тэлеграфу. | Снабжэньне устаноў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў мерамі даўжыні і вагі (масы) дзеля пачтовых опэрацыяў. (Канчатак). | Увядзеньне мэтрычных мераў на рэмонтных працах па тэлеграфу. Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ёму у гаспадарчых умовах. | |
| 3. Народны камісарыят шляхаў зносін Саюзу ССР. | Прапаганда мэтрычнага укладу. Падгатоўчая праца. (Выданьне кіраўнічых правілаў, табліцаў і г. д., забясьпечваючых прыёмку і здачу грузаў і зносіны з іншымі органамі у мэтрычных вымерах). | | | |

| Найменьне ведамстваў. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| 3. Народны камісарыят шляхаў зносін Саюзу ССР. | Пералік папудных тарыфаў і вёрставых тарыфных адлегласьцяў.<br>Мера вагі (масы).<br>Перапраўка вагі, снабжэньне новымі гірамі, дакладнымі прыборамі і калібрамі. | Меры даўжыні (перапраўка старых і снабжэньне новымі лінейнымі вымернікамі). | Працяг перапраўкі вагі і снабжэньня гірамі.<br>Працяг перапраўкі і снабжэньне мерамі даўжыні.<br>Меры аб'ёму (перепраўка старых і снабжэньне новымі мерамі ёмкасьці). | |
| 4. Народны камісарыят замежнага гандлю Саюзу ССР. | Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ёму у мытн. упраўленьні, дзярж. гандлю і самахотным флёце. | | | |
| 5. Народны камісарыят па ваенных і марскіх справах Саюзу ССР. | **У ваенным ведамсцьве:**<br>Прапаганда і навучаньне мэтрычнаму укладу у ваенных установах і воінскіх часьцях.<br>Меры даўжыні і аб'ёму.<br>**У марскім ведамсьцьве:**<br>Прапаганда і навучаньне мэтрычнаму укладу на судах флёту, у часьцях і установах марскога ведамству.<br>Меры вагі (масы) і даўжыні. (Перапраўка вагі і снабжэньне гірамі). | | Меры вагі (масы). | Меры вагі (масы). Адумысловая інструментоўка. |
| 6. Народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР. | Меры вагі (масы).<br>У прабірнай справе.<br>Пры прыгатаўленьні звонкай манэты і папяровай валюты.<br>Меры вагі (масы) у афінажнай справе. | Меры даўжыні. | Меры аб'ёму. | |
| 7. Цэнтральнае статыстыч. упраўленьне Саюзу ССР. | | Пераклад ітогавых довадаў ва ўсіх выданьнях цэнтральнага статыстычнага упраўленьня. | Складаньне бланкаў і формаў статыстычных довадаў у мэтрычным укладу і складаньне усіх статыстычна-эканамічных довадаў у мэтрычнаым укладу. | |
| 8. Вышэйшы савет народнай гаспадаркі Саюзу ССР і вышэйшыя Саветы народнае гаспадаркі саюзных рэспублік. | Прапаганда мэтрычнага укладу і падгатоўчая праца. (выданьне кіраўнічых правілаў, табліц і г. д., забясьпечваючых зносіны з іншымі органамі у мэтрычных вымерах).<br>Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ёму у прамысловасьці і оптавым гандлю: | | | Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ему у рознічным гандлю. |

| Найменьне ведамстваў. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| 8. Вышэйшы савет народнай гаспадаркі Саюзу ССР і вышэйшыя Саветы народнай гаспадаркі саюзных рэспублік. | гарбатна-кафэйнай, табачна-махорачнай, крахмальна-патачнай, кандытарскай, маслабойнай, піваваранай, драджавой, кансэрўнай, тэкстыльнай і электратэхнічнай. | цукровай, сьпіртовай, папяровай, паліграфічнай, гарбарнай, лесатоплiўнай. тарфяной. | вуглёвай, горнай, нафтавай, металургічнай, сілікатнай. Увядзеньне мэтрычнага укстэмы у машына-будаваньні. | |
| | | Меры даўжыні ў прамысловасьці і оптавым гандлю: (лесатоплiўнай, вуглёвай, горнай і нафтавай). | | |
| **Увядзеньне мэтрычнага укладу ў будаўніцтве:** | | | | |
| | Меры даўжыні, аб'ёму і вагі (масы) ува ўсей проэктнай працы. | Меры даўжыні, аб'ёму і вагі (массы) на новых работах. (Перапраўка старых вымерных прыбораў на вытвараемых будаўнічн. работах. | Меры даўжыні, аб'ёму і вагі (масы) на усіх будаўнічых работах. (Перапраўка і снабжэньне гірамі, мерамі даўжыні і аб'ёму). | Канчатковая перапраўка памерных прыбораў. |
| **Увядзеньне мэтрычнага укладу у гэодэзычнай працы.** | | | | |
| | Перапраўка істнуючых інструмэнтаў і прыбораў дзеля вымеру лініяў і плошчаў, а таксама снабжэньне падсобнікамі (плакаты, табліцы і г. д. | Перапраўка і набываньне гэодэзычных прыбораў і інструмэнтаў. Вытворчасьць усіх выглядаў паявых і камэральных топографа-гэодэзычных работаў, а так сама картографічных работаў. | | |
| 9. Народны камісарыят харчаваньня Саюзу ССР. і народныя камісарыяты харчаваньня саюзных рэспублік. | Меры вагі (масы): Мельпрод (аддзел мельнічных прадпрыемстваў), мясахладабойня (праўленьне і эксплёатацыя боенск., хладобоенск. і халадзільных прадпрыемстваў). Кішпрод (адз. кішачнай прамысловасьці, аўтатранспарт (упраўленьне аўтамабільнымтранспартам), цухарчгас (цэнтральнае упраўленьне савецкімі гаспадаркамі) нар. камісарыяту харчаваньня. | Меры вагі (масы): Дзяржмалака (упраўленьне малочнай прамысловасьцю), глаўрыба (галоўнае упраўленьне дзярж. рыбнай прамысловасьці), прыёмачна тэхнічны апарат народных камісарыятаў харчаваньня. | | |
| | Меры даўжыні: | Дакладныя і адумысловыя вымеры, | | |
| | | Пачатак. | Працяг. | Канчатак. |
| | Мясахладабойня (упраўленьне і эксплёатацыя боен., хладабоенскіх і халадзільных прадпрыемстваў) упраўлен. дзярж. малочнай прамысловасьцю), глаўрыба (галоўн. упраўл. дзярж. рыбнай прамысловасьцю), аўтатранспарт (упраўл. аўтамабільн. тран- | | | |

| Найменьне ведамстваў. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| 9. Народны камісарыят харчаваньня Саюзу ССР і народныя камісарыяты харчаваньня саюзных рэспублік. | спартам), цухарчгас (цэнтр. упр. савецкімі гаспадаркамі), прыёмачна-тэхнічныя апараты нар. камісарыятаў харчаваньня. | | | |
| | Меры аб'ёму: | | | |
| | Дзяржмалако (упраўлен. дзярж. малочнай прамысловасьцю), глаўрыба (упраўл. дзярж. рыбн. прамысловасьцю), аўтатранспарт (упр. аўтамабільн. транспартам), цухарчгас (цэнтральн. упр. сав. гаспадаркамі), тэхнічныя апараты нар. камісар. харчаваньня. | | | |
| 10. Камісія па ўнутранаму гандлю Саюзу ССР і камісіі па унутранаму гандлю саюзных рэспублік. | Прапаганда мэтрычнага укладу і азнаямленьне мясцовых органаў. | | | |
| 11. Народныя камісарыяты зямляробства саюзн. рэспублік. | Прапаганда мэтрычнага укладу. Выданьне кіраўнічых правілаў, табліцаў і г. д., забясьпечваючых поўнае азнаямленьне мясцовых органаў з мэтрычным укладам. | | | |
| | Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ему. (Вэтырынарныя управаўленьні). | Меры аб'ему, даўжыні і вагі (масы). | (Іншыя установы.). | Меры вагі (масы). Канчатак. |
| 12. Народныя камісарыяты ахо вы здароўя саюзных рэспублік. | Снабжэньне табліцамі, плакатамі, брашурамі усіх паказац. і пэрыфэрычн. установаў і увядзеньне мэтрычнага укладу у гэтых установах у цэнтрах у самых наркаматах і іх складах. | Увядзеньне мэтрычнага укладу у лячэбных завядзеньнях. (Пачатак). | (Працяг). | (Канчатак). |
| 13. Народныя камісарыяты унутраных справаў саюзных рэспублік. | Прапаганда і навучаньне мэтрычнаму укладу у міліцыі. | | | |
| | | Меры вагі (масаў). даўжыні і аб'ёму у міліцыі і у месцах заключэньня. | | |
| | | Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ёму у камунальнай гаспадарцы. | | |
| 14. Аб'яднанае дзяржаўн. палітычнае упраўленьне Саюзу ССР і дзяржаўн. паліт. упраўл. саюзн. рэспубл. | Прапаганда і навучаньне мэтрычнаму укладу у часьцях войскаў дзярж. палітычнага упраўленьня. | | | |
| | | Меры вагі (масы), даўжыні і аб'ёму у часьцях войскаў дзяржаўн. палітычн. упраўленьня. | | |

**Агульныя увагі.**

1. Больш. дэтальныя тэрміны увядзеньня мэтрычнага укладу у межах дадзенага пляну устанаўліваюцца паміжведамсьцьвена-мэтрычнай камісіяй у выглядзе абавязковых пастановаў у якіх павінны быць паказаны тэрміны і пляны усяе падгатоўчае да рэформы працы.

2. Уся падгатоўчая праца па ўвядзеньню мэтрычнага укладу меры вагі (масы) павінна быць дакончана да 1 студзеня 1925 году.

3. Народныя камісарыяты асьветы саюзных рэспублік, народны камісарыят почт і тэлеграфаў, народны камісарыят шляхаў зносін, вышэйшы савет народнай гаспадаркі Саюзу ССР і вышэйшыя саветы народнай гаспадаркі саюзных рэспублік, народны камісарыят замежнага гандлю, народны камісарыят харчаваньня і народныя камісарыяты харчаваньня саюзных рэспублік з гэтага тэрміну у ва ўсіх замежных зносінах ужываюць выключнае вызначэньне у мэтрычных вымерах, карыстаючыся тым, дзе засталіся неперапраўленымі ранейшыя вымернікі, пераводнымі табліцамі, зацьверджанымі паміжведамсьцьвенай мэтрычнай камісіяй.

4. Усе ведамствы, перайшоўшыя на мэтрычны укладу вымераў, згодна гэтаму пляну і асобным пастановам паміжведамсьцьвенай мэтрычнай камісіі, раней 1 студзеня 1925 году могуць ужываць у замежных зносінах з іншымі ведамствамі падвойны запіс (мэтрычны і ранейшы).

5. Ува ўсіх ведамствах дзяржаўных, коопэратыўных і прыватных установах і арганізацыях, а таксама у оптавым і розьнічным гандлі да 1 студзеня 1927 году канчаткова выводзяцца з ужываньня старыя меры і замяняюцца мэтрычнымі мерамі вагі (масы), даўжыні і аб'ёму бяз ужытку пераводных табліц з старых мераў на мэтрычныя.

6. Усе мерапрыемствы па мэтрызацыі гандлю павінны рабіцца непадзельна у дзяржаўным, коопэратыўным і прыватным гандлю з тым, каб увядзеньне рэформы у оптавым гандлю точна увязывалася з увядзеньнем яе у належнай галіне прамысловасьці.

7. У розьнічным гандлю рэформа павінна уводзіцца з такой паступовасьцю пасьля оптавай, якая давала б магчымасьць збыту такога ж самага тавару, які маецца у магазынах.

Канчатковае увядзеньне мэтрычнага укладу у розьнічным гандлю праводзіцца у 1926 годзе, за выключэньнем прадметаў, адпушчаемых у упакаваным дзеля розьнічнай прадажы выгляду і аклееных бандэрольлю, як напрыклад: гарбата, кава. цыкоры, табака, махорка і г. д., якія ўводзяцца раней гэтага тэрміну па адумысловых пастановах паміжведамсьцьвенай мэтрычнай камісіі.

8. Ужытак урочнага палажэньня у мэтрычных вымерах праводзіцца з 1-га кастрычніку 1923 г. у ва ўсіх проэктных работах з 1 га кастрычніка 1924 году на новых работах і з кастрычніку 1925 году на усіх будаўнічых работах, з гэтага тэрміну вылічэньне усякіх каштарысаў і расцэначных ведамасьцяў вядзецца па мэтрычнаму укладу з такім разлікам, каб сводныя довады па усей будаўнічай працы, зьвязанай з заяўкамі на крэдыты, рабіліся усюды з 1 кастрычніка 1926 году (г. ё. да бюджэтнага 1926—27 году) у мэтрычных вымерах.

9. 31-га кастрычніка 1926 году уводзіцца мэтрычны уклад вымераў усюды у ва ўсіх запісах бухгальтэрскіх, крэдытных і банкаўскіх, а таксама у ва усіх довадах статыстычнага і эканамічнага характару і агульных бюджэтных раскладах. Да гэтага тэрміну паміжведамсьцьвеная мэтрычная камісія выдае інструкцыю, выяўляючую парадак і умовы увядзеньня мэтрычнага укладу у ва ўсіх вышэйпаказаных калькуляцыёных і рахунковых работах.

10. Увядзеньню мэтрычнага укладу у асобных ведамствах і галінах народнай гаспадаркі павінны папераджаць прапаганда і навучаньне гэтаму укладу. Да справы прапаганды і навучаньня мэтрычнай сыстэме прыцягваюцца наступныя ведамствы і установы: народныя камісарыяты асьветы саюзных рэспублік, народны камісарыят шляхаў зносін Саюзу ССР, народны камісарыят па ваенных і марскіх справах Саюзу ССР, вышэйшы савет народнай гаспадаркі Саюзу ССР, вышэйшыя саветы народнай гаспадаркі саюзных рэспублік, усерасійскі цэнтральны савет профэсыянальных саюзаў і цэнтральны саюз спажывецкіх таварыстваў.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у 280 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 7 сьнежня 1923 г.

---

## 290. Аб з'іначаньні рэдакцыі арт. 3 пастановы СПА ад 5-га кастрычніка 1923 г. аб арганізацыі савету па пабудоўцы Сямірэчанскай чыгункі.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Артыкул з пастановы СПА Саюзу ССР ад 5 кастрычніка 1923 г. аб арганізацыі Савету па пабудаўцы Сямірэчанскай чыгункі („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і ЎЦВК ад 12 кастрычніка 1923 г.) выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„3. Пабудоўка Сямірэчанскай чыгункі фінансыруецца водлуг каштарысу ВСНГ з учотам срадкаў, даваемых НКШВ рэльсамі, шпаламі і іншымі матар'яламі, а таксама перавозкамі іх да месца працы.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 280 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 7 сьнежня 1923 г.

---

## 291. Аб дадатковым выпуску транспортных сэртыфікатаў.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дазволіць дадатковы зьверх устаноўленай пастановай СПА Саюзу ССР ад 26 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК; СПА Саюзу ССР № 3, арт. 79) нормы, выпуск бязпроцэнтных пазычковых абавязацельстваў НКШЗ транспартных сэртыфікатаў вартасьцю у 5 рублёў золатам на суму пяць міліёнаў рублёў золатам, сэрыямі па аднаму міліёну рублёў кажная.

2. Пагашэньне узноў выпушчаемых сэртыфікатаў забясьпечваецца усімі прыбыткамі чыгунак і воднага (марскога і рачнога) транспарту і гарантыяй народнага камісарыяту грашовых справаў.

3. Сэртыфікаты абавязковы да прыёму у аплату пасажырскіх, багажных і грузавых перавозак і іншых прыслугаў чыгунак і воднага (марскога і рачнога) транспарту.

4. Рэалізацыя сэртыфікатаў робіцца праз выдачы іх дзяржустановам і дзяржпрадпрыемствам у рахунак каштарысных крэдытаў і ўрадавых судаў, а таксама праз непасрэдную прадажу насельніцтву праз фінорганы, транспартныя касы і крэдытныя установы.

5. Да 30-га красавіка 1924 году уключна транспартныя сэртыфікаты гэтага выпуску прыймаюцца у аплату прыслугаў чыгуначнага і воднага транспарту, прычым пасьля 1-га красавіка сэртыфікаты, паступаўшыя у касы, не падлягаюць паваротнаму выпуску з гэтых касаў у зварот. 31-га па 30-е красавіка 1924 году уключна сэртыфікаты могуць быць падаваемы да пагашэньня грашамі, як у касах чыгунак і воднага транспарту, гэтак і у касах НКГС.

6. Сэртыфікаты выпушчаюцца, прыймаюцца і пагашаюцца па курсу залатога рубля, устанаўліваемаму котыравальнай камісіяй на дзень рэалізацыі ці пагашэньня.

7. НКГС аплачвае народнаму камісарыяту шляхаў зносін каштоўнасьць сэртыфікатаў, прынятых касамі НКГС і не падлягаючых далейшаму выпуску, па падачы.

8. Падрабязныя правілы аб парадку і спосабу рэалізацыі і пагашэньня сэртыфікатаў устанаўліваюцца асобнай інструкцыяй выпрацоўваемай па згодзе з НКШЗ.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

6 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 289 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 18 сьнежня 1923 г.

---

## 292. Аб пашырэньні на тавары, якія вывозяцца праз Потійскую, Сухумскую, Астарынскую, Шахтахтынскую і Артыкскую мытніцы льготаў, прадгледжаных арт. 1 пастановы УЦВК і СНК ад 2 студзеня 1923 г. аб мерах дапамогі экспорту.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць вываз праз мытніцы II разраду: Потійскую, Сухумскую, Астарынскую, Шахтактынскую і Артыкскую абкладзеных акцызам тавараў з пашырэньнем на іх льготаў, прадгледжаных арт. 1 пастановы ЎЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 г. аб мерах дапамогі экспорту (Зборн. Узак. РСФСР 1923 г. № 3, арт. 60).

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 288 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 16 сьнежня 1923 г.

---

## 293. Аб устанаўленьні для заводу штучных мінэральных водаў Паўночна-Заходняга краіннага вытворчага аб'яднаньня інвалідаў зьніжанай нормы вырабу водлуг аснаўнога патэнту.

Выняткам з пастановы СНК Саюзу ССР ад 17 жнітня 1923 г. аб з'іначаньні сістэмы акцызнага абкладаньня мёду, квасу, фруктовых і мінэральных водаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР, № 6, арт. 138), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Установіць для заводу штучных мінэральных водаў у Петраградзе, які належыць Паўночна-Заходняму краіннаму вытворчаму аб'яднаньню інвалідаў, норму вырабу водлуг аснаўнога патэнту ў 1.500 вёдраў у паўгода.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 294. Аб дадатковым выпуску транспартных сэртыфікатаў.

Дзеля значнага спросу на транспартныя сэртыфікаты з боку прадпрыемстваў і установаў, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць дадатковы, зьверх нормы, устаноўленай пастановамі ад 26 ліпеня 1923 г. і 23 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 9, арт. 291) выпуск бязпроцантных пазычковых абавязкоўстваў народнага камісарыяту шляхаў зносін (транспартных сэртыфікатаў) якасьцю ў 5 рублёў золатам на зьлічво пяць мілёнаў рублёў золатам, сэрыямі па аднаму мілёну рублёў кожная, на тых жа умовах, на якіх дазволены выпуск сэртыфікатаў пастановаю СПА ад 23 лістападу 1923 г.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

8 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 289 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 18 сьнежня 1923 г.

---

## 295. Папраўкі.

1.

У арт. 3 пастановы СПА Саюзу ССР ад 10 жніўня 1923 г. аб узвароце мытных збораў пры вывазу закардон тэкстыльных і гумаляставых вырабаў, апублікаванага 17 жніўня у № 183 „Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК РСФСР“ у пералічэньні артыкулаў мытнага тарыфу замест арт. 126 і арт. 170 належыць чытаць „арт. 125 і арт. 180“.

18 кастрычніка 1923 г. Масква—Крэмль.

2.

Да пастановы СПА Саюзу ССР ад 8-га жніўня 1923 г. аб перадачы эксплёатацыі і дабудаваньня дровалесавозных і под'яздных дарогаў з веданьня НКШЗ у загад трэхстыраванай лясной прамысловасьці („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК № 180, Весьнік ЦВК, СНК і СПА, 1923 г., № 4, арт. 110).

У арт. 6-ым пасьля слоў: „часьць галіны“ уставіць словы: „ад пункту прымыканьня новае да пачатку старой“.

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

1 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Главлит № 14596.

Тираж 5.000. экз.

Типография „Красный Пролетарий“ Издательства „Красная Новь“, Пименовская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

**НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ І ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.**

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі дёвадамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9.*

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:**
МАСКВА — КРЭМЛЬ — ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

---

**ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА**
**ГАЛОЎНАЙ КАНТРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ".**
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ" ЦВК САЮЗУ ССР і ЎЦВК).